**№ 63 (4110)**

16 жніўня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля



АЛІМПІЯДА-2016

# Прарвала!









*“На публікацыях пра дасягненні нашых алімпійцаў шмат не заробіш”*, – неяк на мінулым тыдні шчыра сказаў я рэдактару, хаця ў маёй душы надзеі і спадзяванні жылі і нават не збіраліся паміраць. І я, як і астатнія балельшчыкі, быў узнагароджаны. Спачатку 20-гадовая беларуская цяжкаатлетка Дар’я Навумава заваявала сярэбраны медаль у вагавай катэгорыі да 75 кг. А затым – прарвала! За адзін алімпійскі дзень беларусы заваявалі адразу тры ўзнагароды – золата батуціста Уладзіслава Ганчарова, серабро цяжкаатлета Вадзіма Стральцова і бронза плыўчыхі Аляксандры Герасімені на дыстанцыі 50 метраў вольным стылем.

*“Дзякуй усім вялікі за віншаванні і самае галоўнае – за веру і падтрымку*, – напісала Аляксандра ў сацыяльных сетках. – *Не ўсё так атрымліваецца, як хочацца. Бываюць узлёты і падзенні. Бываюць хвіліны, калі наогул хочацца ўсё кінуць і забыць, як страшны сон. І галоўнае ў такія моманты, каб побач былі тыя, хто заўсёды верыць у цябе і любіць без медалёў. Таму лічу абсалютна справядлівым прысвяціць гэты медаль гэтым людзям! Вы гэта заслужылі”.*

А вось **Уладзіслаў Ганчароў**, які стаў алімпійскім чэмпіёнам у скачках на батуце, атрымаў віншаванні ад сваёй каханкі адразу на арэне Палаца спорту ў Бразіліі. **Ганна Гарчанок**, якая таксама ўдзельнічала на Алімпіядзе ў складзе зборнай Беларусі па скачках на батуце, ацаніла перамогу Уладзіслава так: *“Каханы, ганаруся табой!”*

Дарэчы, у дзяцінстве Уладзіслаў Ганчароў спрабаваў свае сілы і ў спартыўнай гімнастыцы, але там яго, як кажуць, “спісалі ў архіў”.

*«У шэсць гадоў бацькі аддалі мяне ў спартыўную гімнастыку, дзе літаральна праз тры месяцы мне вынеслі прысуд – бесперспектыўны*, – распавёў сам спартсмен. – *Накшталт не хапала гнуткасці і расцяжкі. Але я шпаркім быў, і мяне вырашылі паспрабаваць у скачках на батуце. Так я трапіў да трэнера-пачаткоўца Віцебскай СДЮШАР №2 Вольгі Уласавай. А якому дзіцяці не спадабаецца скакаць на батуце? Гэта адрэналін, пачуццё палёту – класна! Не вельмі падабалася, праўда, патрабавальнасць трэнера, якая прымушала выконваць канкрэтныя заданні. Прызнаюся, часам хацелася кінуць спорт. Таму што пасля цяжкіх трэніровак прыходзіў дамоў ледзь жывы і нічога больш рабіць не хацеў. У такія хвіліны не раз лавіў сябе на думцы: і навошта мне гэта трэба? Але адпачнеш – і назаўтра зноў спяшаешся ў залу».*

Такім чынам, чатыры медалі ў беларусаў ужо ёсць. Мяркую, яны – не апошнія.

**Алесь СІВЫ.**

МАЛАЙЦЫ!

## Віктар Якуцін і Кірыл Волкаў намалацілі ўжо больш за 4000 тон збожжа

Як далёка шагнула тэхніка! І, вядома ж, майстэрства механізатараў.

Яшчэ з дзясятак гадоў таму не ў кожным калгасе ўсе ўборачныя экіпажы маглі намалаціць 4000 тон зерня, а сёлета на такі паказчык выйшлі два чалавекі – Віктар Якуцін і Кірыл Волкаў з ААТ “Александрыйскае” Шклоўскага раёна.

Віншуем!

На 15 жніўня ўсяго ў сельгасарганізацыях краіны намалочана 6 мільёнаў 225,7 тысячы тон збожжа. Лідзіруюць гаспадаркі Мінскай вобласці, дзе сабрана 1,6 мільёна тон збожжа.



ПАД ГРАДУСАМ

## Апошнія дні лета будуць спякотнымі

Сіноптыкі кажуць, што на пачатку тыдня будзе даволі холадна, але на выхадныя вернецца гарачыня.

На пачатку тыдня надвор’е ў Беларусі будуць вызначаць паўночна-заходнія паветраныя плыні і атмасферныя франты. **У аўторак** на большай частцы тэрыторыі краіны – кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы. Тэмпература паветра ноччу – +7…+13°С, днём – +14…+19°С, па поўдні да + 22°С.

**У сераду і чацвер** на большай частцы Беларусі – кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ноччу – +6…+13°С, удзень – +16…+23°С, па Гомельскай вобласці да +25°С.

*«Пачынаючы з пятніцы, у атмасферы пачнецца перабудова. З ростам атмасфернага ціску дажджоў стане менш, паўночныя ветры зменяцца на паўднёвыя, і тэмпература падвысіцца»*, – паведаміў начальнік службы гідраметэапрагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролю за радыеактыўным забруджваннем і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Дзмітрый Рабаў.**

**У пятніцу** месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Тэмпература ноччу – +8…+15°С, днём – +20…+27°С, па паўднёвым усходзе да + 29°С.

**Выхадныя чакаюцца гарачымі:** ноччу – +12…+19°С, днём – +25…+32°С. Па захадзе краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы і навальніцы.

СЕМЕНУ БУКЧИНУ – 75!

# Адвокат Свободы



Через день, 18 августа, исполняется 75 лет со дня рождения писателя, литературоведа, публициста и, как хорошо знают читатели «Народной Воли», нашего давнего и многолетнего автора Семена Владимировича Букчина. Мы не будем пересказывать его биографию. Тем более что он сам немало рассказал о себе в публиковавшихся в конце прошлого года в нашей газете «Записках побежденного» (они вошли в одноименную книгу, вышедшую в этом году).

В самом начале литературной работы С.Букчин получил благословение от Корнея Чуковского. Начавший печататься в конце 1950-х годов как журналист, а затем сделавший себе имя как острый литературный критик и литературовед, на протяжении многих лет осуществивший ряд успешных архивных разысканий в области истории русской и белорусской литератур (они стали основой его книг о Фонвизине, Чехове, Льве Толстом, декабристах, белорусско-русских литературных связях), Семен Букчин приобрел особую популярность как публицист во времена, обещавшие демократизацию общественной жизни. Критика советской власти и установившихся в Беларуси авторитарных порядков соседствует у него с неизменным неприятием ограничений свободы личности, с какой бы стороны они ни исходили, и журналистики как сферы услуг в области потребления.

Эта позиция в немалой степени продиктована опытом изучения жизни и творчества знаменитого русского журналиста Власа Дорошевича. Фельетонистика Дорошевича оказала несомненное влияние на сатирическую сторону дарования С.Букчина, стиль его публицистики. Семен Букчин выпустил две монографии, посвященные «королю фельетонистов», составил и прокомментировал пять изданий его произведений, в том числе двухтомник «Сахалин», стоящий у истоков каторжно-лагерной темы в русской литературе. В этом году московское издательство «Новое литературное обозрение» выпускает в серии «Россия в мемуарах» подготовленную им книгу воспоминаний известной дореволюционной журналистки и писательницы Александры Соколовой, матери В.М.Дорошевича.

Не оставляя своих литературно-критических и литературоведческих занятий, филолог и писатель, автор ряда исторических повестей, Семен Букчин гордится своей принадлежностью к журналистскому цеху. Стремление сохранить независимую, демократическую позицию в современном мире дорого обходится журналистам. И у нашего автора есть не только читатели, не приемлющие его позицию по тому или иному вопросу, несогласные с ним (что, кстати, вполне нормально), но и откровенные недоброжелатели. Впрочем, если верить одному высказыванию, – «у настоящего писателя должны быть враги». И все-таки еще больше людей, начинающих знакомство с очередным номером «Народной Воли» с публикаций Семена Букчина, ждущих его выступлений, благодарных их автору. Об этом свидетельствует редакционная почта.

Да, Семен Букчин далеко не для всех «удобный» автор. Но мы, коллеги и друзья Семена Владимировича по «Народной Воле», от души желаем ему еще долгие годы сохранять это качество, отличающее его публицистику, и, конечно же, продолжать занимать то место в нашей журналистике, которое определил Василь Быков, – быть «адвокатом свободы и справедливости в Беларуси»!

**Народовольцы.**

*(Отрывок из романа Семена Букчина читайте на 7-й стр.)*

ЦЭНЫ

## Колькі каштуюць веды?

*Міністэрства адукацыі пастановай №70 ад 25 ліпеня 2016 года ўстанавіла цэны за карыстанне падручнікамі і навучальнымі дапаможнікамі для школьнікаў і дашкольнікаў у 2016/2017 навучальным годзе.*

Так, напрыклад, бацькі вучняў 1-га класа павінны заплаціць за карыстанне падручнікамі і навучальнымі дапаможнікамі – 5,61 рубля; 2-га класа – 7,7; 3-га класа – 5,5; 4-га класа – 6,69; 5-га класа – 10,76; 6-га класа – 14,04; 7-га класа – 8,12; 8-га класа – 8,7; 9-га класа – 8,01; 10-га класа – 11,46; 11-га класа – 11,98 рубля.

ПРАГНОЗЫ

## Ці даплывуць да медаля?

*Сёння ў беларускіх алімпійцаў ёсць рэальны шанц павялічыць колькасць медалёў.*

Беларускія вясляркі **Надзея Ляпешка** і **Марына Літвінчук** выйшлі ў фінал Алімпіяды. Пры гэтым экіпаж жаночай байдаркі-двойкі прайшоў кваліфікацыю на дыстанцыі 500 метраў без праблем – у сваім паўфінальным заездзе Ляпешка і Літвінчук былі першыя.

Фінал у экіпажаў жаночых байдарак-двоек пройдзе сёння. Балеем за нашых!

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

## Ну і Глеб! Ну і Глеб!

Колькі часу знакаміты футбаліст трымаў у сакрэце свае адносіны са Святланай Губарэвіч!

І вось у мінулыя выхадныя адбылося іх вяселле ў Турцыі.

Святлана закончыла музыкальную школу, а затым факультэт міжнародных эканамічных адносін БДЭУ, была салісткай ансамбля “Равеснік”. Супермадэль Беларусі.

Напярэдадні вяселля дамовіліся: усе дзяўчаты з’явяцца на ўрачыстасць у сукенках чырвонага колеру.

**Рэгіна СВЯТЛІЧНАЯ.**



Народная Воля
http://www.nv-online.info
16 ЖНІЎНЯ 2016 г.

СТОП-КАДР





## В Минске прошел масштабный пивной фестиваль

*Организатором A-festa выступила «Оливария». Менеджер по корпоративным коммуникациям этой компании Алла Мочалова говорит, что они хотели создать настоящий европейский фестиваль.*

– Октоберфест – это просто большие скамейки, люди пьют и все. А у нас была идея сделать это на более высоком уровне. Привнести в Беларусь другой формат европейского отдыха – под открытым небом на траве.

Правда, не обошлось и без ложки дегтя. Так, организаторы не учли большого наплыва людей, многие были не очень довольны огромными очередями в туалеты, палатки с едой и даже за пивом. Тем не менее праздник под открытом небом все равно удался.

ЗНАКАМІТЫ ГОСЦЬ

## Вячаслаў Зайцаў – у Брэсце



У горадзе над Бугам вядомы расійскі куцюр'е бываў і раней, але праездам. На гэты раз ён спыніўся не толькі для таго, каб наведаць Брэсцкую крэпасць, Дом моды Nickolia Morozova, але і пабываць у Белавежскай пушчы.

СУД

## Не отсидел один срок – может получить второй

Похоже на то, что бывшему директору унитарного предприятия «Цемстройремонт» Павлу Беловинскому, как говорят в народе, век воли не видать. В 2015 году суд Горецкого района приговорил его к 10 годам заключения, признав виновным в похищении совместно с директором ОАО «Горецкий ОРТК» Ритой Абасовой 1,8 миллиарда рублей (старыми). Именно на такую сумму они нанесли ущерб ОАО «Белорусский цементный завод».

Не успел П.Беловинский привыкнуть к тюремному режиму, как ему были выдвинуты новые обвинения. Следствием установлено, что, будучи директором УП «Цемстройремонт», он и главный бухгалтер похитили сотни миллионов рублей путем подтасовки документов.

В эти дни уголовное дело, состоящее из 33 томов, рассматривается в Краснопольском суде. Если Фемида подтвердит обвинения следствия, то Павлу Беловинскому, приговоренному ранее к десяти годам заключения, светит еще несколько лет тюремного режима.

**Любовь КОРОЛЬКОВА.**

ПРЭЗЕНТ

## Лукашэнку падарылі… карову

*Учора кіраўнік краіны падчас візіту ў Брэсцкую вобласць наведаў у тым ліку і сельгаспрадпрыемства «Савушкіна» ў Маларыцкім раёне, дзе атрымаў нечаканы сюрпрыз.*

Падчас наведвання адной з ферм Лукашэнку падарылі для асабістай падсобнай гаспадаркі карову – вынік уласнай племяннай работы прадпрыемства. Як паведамляюць дзяржаўныя інфармагенцтвы, кіраўнік з удзячнасцю прыняў падарунак.

АСОБА

Юрый МЕЛЯШКЕВІЧ:

# «Калі б барацьба была чэснай, шанцаў трапіць у парламент у незалежных кандыдатаў было б шмат»



*Сярод зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў шостага склікання 33-гадовы **Юрый Меляшкевіч** – сябра Партыі БНФ і каардынатар руху «За Свабоду». Ён будзе змагацца за месца ў Авальнай зале па Ясенінскай выбарчай акрузе Мінска №100.*

**– Юрый, вы даволі малады чалавек і вырашылі ісці ў дэпутаты. Навошта вам гэта?**

– У Малінаўцы я спрабую балатавацца ў чацвёрты раз. Раней, праўда, удзельнічаў толькі ў мясцовых выбарах, стараўся паказаць сапраўднае аблічча беларускага выбарчага працэсу – наколькі ўсё несправядліва і непразрыста. З іншага боку, удзел у выбарчых кампаніях – гэта ўсё ж такі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з людзьмі, расказаць ім пра свае погляды, адчуць падтрымку...

**– Калі выбары, як вы сцвярджаеце, фальсіфікуюцца, навошта вам марнаваць свой час, свае сілы, сваю энергію на такую, як падаецца, бессэнсоўную справу?**

– Я не лічу, што справа гэта бессэнсоўная. Падчас сустрэч людзі нярэдка звярталіся да нас з праблемамі і шмат якія ўдавалася вырашаць – такім чынам, у нас з'яўляліся новыя прыхільнікі. Гэта ўзмацняе грамадзянскую супольнасць у Малінаўцы, узмацняе маю каманду, мае пазіцыі ў раёне.

Адна з мэт маёй сёлетняй кампаніі – знайсці менавіта неабыякавых людзей, якія не страцілі надзею на перамены. Расчараванне і апатыя, што гучаць з вуснаў многіх, жыццё наша не палепшаць.

Я з сям'і чарнобыльскіх перасяленцаў. Мая акруга – Малінаўка, дзе жыве многа такіх жа сямей, як наша, дзе людзі сабраны па прынцыпе зямляцтва. У нашым пад'ездзе жывуць перасяленцы са Слаўгарада, у суседнім – чачэрскія і г.д. У нас ёсць супольная праблема, мы ведаем, што такое наступствы Чарнобыля – які гэта страх, якія гэта хваробы! Мая сястра пацярпела ад аварыі, у яе была анкалогія. Я разумею, што людзі, якія жывуць у гэтым мікрараёне, могуць мяне падтрымаць яшчэ за тое, што ў нас аднолькавы з імі лёс, я родам са Слаўгарада…

Многія разумеюць, што будаўніцтва АЭС у Астраўцы – вялікая памылка. Што энергетычную бяспеку яна нам не гарантуе. Беларусь бярэ на сябе дадатковы цяжар крэдытаў, бярэ на сябе тэхналагічную залежнасць, бо ў нас шмат чаго няма… Спецыялісты, сістэма бяспекі – усё гэта будзе пастаўляцца і кантралявацца Расіяй. На мой погляд, вельмі важна, каб гэты праект спыніўся, каб нашы выдаткі аказаліся мінімальнымі. І, дарэчы, усё тое, што зараз адбываецца на будаўніцтве станцыі, гэта, мне здаецца, не што іншае, як наўмыснае зацягванне рэалізацыі праекта, які ў будучым і сапраўды можа спыніцца. Такіх прыкладаў, дарэчы, шмат у свеце.

**– Подпісы лёгка збіраліся?**

– Не скажу, што лёгка. Хаця мы шмат хадзілі па кватэрах – літаральна кожны дзень, як на працу, стаялі з пікетамі.

Што заўважыў: вельмі часта на выбар уплывала мова. Як толькі людзі чулі, што я размаўляю па-беларуску, ахвотна адкрывалі кватэры і ставілі подпісы. Многіх цікавіла, я кандыдат ад апазіцыі ці ад улады. Прызнаюся, часам з напружаннем думаў: а раптам адмовяць. Але звычайна людзі вельмі станоўча рэагавалі, мабыць, таму, што сёння мала давяраюць **існуючай уладзе.**

**– Юрый, калі сёлетняя выбарчая кампанія ўжо чацвёртая для вас, то можна сказаць, што вы палітык са стажам…**

– Так, палітыкай я пачаў займацца вельмі даўно, бо рос у актыўнай сям'і. Мой бацька і маці – настаўнікі; тата Віктар Меляшкевіч – адзін з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту. Ён вельмі паспяхова працаваў з мясцовымі жыхарамі, яго каманда мела большасць у гарсавеце, на ягоным прыкладзе я бачыў, што актыўная, настойлівая, штодзённая палітыка дае пэўныя поспехі.

Яшчэ са школьных і студэнцкіх часоў я ўдзельнічаў у розных акцыях. У 2006 годзе працаваў у мінскім гарадскім штабе кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча, пасля чаго быў адлічаны з Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. Прыйшлося з'ехаць у Польшчу, дзе набываў адукацыю біяэколага ў Варшаўскім політэхнічным універсітэце. Але потым я вярнуўся ў Мінск і ў 2007 годзе здаў на выдатна дзяржэкзамены і на выдатна абараніў дыплом у сваім універсітэце па спецыяльнасці "біяэкалогія". Лічу, што ў нашых чыноўнікаў ад адукацыі, перш за ўсё маю на ўвазе рэктара Тэхналагічнага ўніверсітэта, ёсць сумленне, цвёрдыя погляды. Бо калі пасля рэпрэсій і майго адлічэння ён паабяцаў аднавіць мяне ва ўніверсітэце, слова сваё стрымаў.

**– Па спецыяльнасці працавалі? Я, напрыклад, вас больш ведаю як эксперта-эколага, чым як палітыка.**

– Яшчэ ў часы студэнцкай практыкі я даведаўся, якія нізкія заробкі ў эколагаў. Займацца цікавай для мяне справай азначала не мець магчымасці карміць сям'ю. А я на той час ужо быў жанаты, у 2008 годзе нарадзіўся наш першынец – сын Станіслаў. Прыйшлося мяняць прафесію, спрабаваць сябе ў іншых сферах: хто хоча, то знойдзе, як зарабіць, галоўнае не баяцца спрабаваць. Працаваў інжынерам у будаўнічай кампаніі «БелХэн-І», менеджарам у IT-кампаніях. Была спроба адкрыць свой бізнес, які быў звязаны з вытворчасцю ветрагенератараў. Не атрымалася. А больш за тры гады таму стварыў турыстычную кампанію "Куфэрак падарожжаў", і паспяхова там выконваю абавязкі дырэктара.

**– Экалогія і турызм – рэчы не зусім узаемазвязаныя…**

– Гэта бізнес. Я ўсё ж такі разумеў і ўяўляў, чым хачу і буду займацца. Па-першае, я люблю падарожнічаць па краіне. Нашы адносіны з жонкай Ганнай умацаваліся менавіта у вандроўках па Беларусі, якія ў сярэдзіне 2000-х ладзіла Таварыства аховы помнікаў пад кіраўніцтвам вядомага гісторыка Антона Астаповіча. Потым па нейкіх прычынах гэтыя вандроўкі спыніліся, і калі ў маім жыцці паўстала пытанне, чым займацца, я вырашыў паспрабаваць рабіць нешта падобнае. Мне падавалася, што гэты кірунак і з пункту гледжання запатрабаванасці, і з пункту гледжання прыбыткаў цікавы. Я не памыліўся.

**– У Беларусі можна паспяхова сумяшчаць асноўную працу з палітычна-грамадскай дзейнасцю?**

– Так, можна. Хаця, безумоўна, я разумею, што рызыка заўжды застаецца, улада пільна сочаць за тымі, хто не падзяляе яе палітыку, шмат у чым разыходзіцца ў поглядах на тое, што адбываецца ў краіне, мае сваю пазіцыю.

**– Жонка не супраць вашага намеру стаць дэпутатам? Кампанію ладзіце за свае грошы?**

– Яна лічыць, што ў кожнага чалавека ёсць права на самарэалізацыю. А грошы… Дзяржава сапраўды нічога не дае кандыдатам. Прыцягваць можна толькі ўласныя сродкі і ахвяраванні юрыдычных асоб, і зараз, дарэчы, адкрыты рахунак у банку. Ёсць яшчэ адзін рэсурс – паплечнікі, сябры, якія гатовы ахвяраваць сваім часам, збіраць за мяне подпісы, праводзіць агітацыю за маю кандыдатуру. У маёй ініцыятыўнай групе, дарэчы, амаль 40 чалавек.

З Ганнай мы пазнаёміліся яшчэ ў студэнцкія часы. Яна біятэхнолаг, але калі была ў дэкрэтным адпачынку (праз два гады пасля Станіслава ў нас нарадзілася дачушка Яніна) мела магчымасць вызначыцца, заставацца ёй у прафесіі ці спрабаваць сябе ў у чымсьці іншым. Ганна вырашыла, што хоча быць псіхатэрапеўтам. І тут ужо я, безумоўна, падтрымаў яе выбар. Ганна скончыла Акадэмію паслядыпломнай адукацыі і зараз вучыцца на псіхатэрапеўта ў Маскоўскім інстытуце.

**– А час на дзяцей ў вас ёсць? Як часта яны бачаць бацьку?**

– Зараз, калі ідзе выбарчая кампанія і пачалася агітацыя, прызнаюся, малавата часу бавім разам. Хаця, калі падалі дакументы на рэгістрацыю мяне кандыдатам і атрымаўся перапынак, разам з сям'ёй на тыдзень махнулі на Нарач, паказаў дзецям прыгожыя беларускія мясціны.

Раніца – абавязкова мой час. Я заводжу дзяцей у школу і садок. Вечарам ходзім разам на стадыён, у выхадныя звычайна культурная праграма.



**– Станіслаў наведвае беларускамоўную школу?**

– Ён ходзіць у бліжэйшую да дома школу, яна рускамоўная. Скажу шчыра: гэта не было для нас прынцыповым пытаннем. Мы выбіралі не школу, а настаўніцу, да якой патрапіць наша дзіця.

Так, я ўвесь час размаўляю па-беларуску, жонка больш па-руску і дзеці па-руску. Такая наша рэальнасць. Можна, канешне, сканструяваць для дзяцей хлуслівую сітуацыю, ізаляваць іх ад рускамоўнага соцыума і сказаць ім:"Дзеці, наш свет – гэта толькі беларускамоўны свет!". Але гэта будзе няпраўда. Насамрэч яны жывуць у свеце, дзе пануе руская мова і яны ведаюць, што тата гаворыць прынцыпова па-беларуску, што для нашай сям'і беларускія каштоўнасці, беларуская культура на першым плане. Ім трэба сацыялізавацца, сябраваць. Падрастуць – самі вырашаць, на якой мове ім размаўляць.

**– Юрый, і апошняе пытанне: вы з якой праграмай звяртаецеся да выбаршчыкаў?**

– З народнай. Яна распрацавана шэрагам палітычных партый і рухаў з удзелам вядомых у краіне экспертаў. Я сааўтар часткі матэрыялаў, прысвечаных экалогіі і энергетыцы. Гэта праграма задавальняе шырокі спектр палітычных суб'ектаў, і калі мы прыйдзем у парламент, у нас будзе згода шырокай кааліцыі на перамены.

Я лічу, што парламент – гэта месца, дзе павінна ісці дыскусія, дзе павінны гучаць розныя экспертныя меркаванні. На мой погляд, дэпутаты, якія прымаюць законы, павінны несці персанальную адказнасць за тое, што яны прапануюць і за што яны галасуюць. Сёння гэтага ў Беларусі няма.

Сёння выбаршчыкі разумеюць, што тыя, хто ідзе ў дэпутаты, як кажуць, ад улады нічога ў нашым жыцці мяняць не збіраюцца. Існуючая сістэма іх задавальняе, забяспечваючы добрым заробкам і годнай пенсіяй у будучым. Таму, калі б барацьба была чэснай, шанцаў трапіць у парламент у незалежных кандыдатаў было б шмат.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**



Народная Воля
http://www.nv-online.info
16 ЖНІЎНЯ 2016 г.

ПИСЬМА С КРЕЩАТИКА



Александр ФЕДУТА

## Что посеяли…

*Недавно Александр Лукашенко посетил прибыльное фермерское хозяйство в Смолевичском районе. На двадцать втором году правления. Нужно полагать, что или частные владения до сих пор не были прибыльными, или убыточность бывших колхозов президенту не была очевидна.*
*Но поговорить хочется не об этом. Спросить есть о чем, а ответов даже государственное телевидение не дает.*

Пишу о том, в чем президент заведомо разбирается лучше меня. И ничего удивительного в этом нет. Он – выпускник Горецкой сельхозакадемии, к тому же на его рабочий стол ежедневно кладется множество аналитических бумаг целого штата советников, помощников, спичрайтеров. Но это, правда, не означает, что вся информация становится достоянием общественности.

Александр Григорьевич, посещая фермерское хозяйство на территории области, которой руководит бывший министр сельского хозяйства Семен Шапиро, сказал о целесообразности поддержки фермеров. А где можно получить цифры о динамике развития фермерских хозяйств за годы правления президента Лукашенко? В том числе об объемах финансовой поддержки со стороны государства фермерским хозяйствам и колхозам – в расчете, например, на сто гектаров пашни. Такие цифры ведь должны быть. Во всяком случае, не сомневаюсь, Семен Шапиро уж точно их знает – иначе не повез бы он главу государства к процветающему фермеру – вместо того, чтобы везти в какой-нибудь процветающий СПК.

Кстати, теперь почти все бывшие колхозы называются кооперативами, различными товариществами, обществами и т.д. Но, по сути, они остались теми же колхозами и совхозами. Важны не вывески на конторах, а результаты деятельности. Мне лично очень хочется ознакомиться с показателями процветания того хозяйства, которым когда-то руководил дважды Герой Труда Василий Старовойтов. Посмотреть доходы крестьян при Старовойтове, когда хозяйство действительно было коллективным, и потом, после огосударствления. Ведь как раз эти цифры были бы наилучшим доказательством эффективности государственной аграрной политики при Лукашенко. Есть ведь такие цифры, должны быть. Например, в Могилевском облисполкоме. И их нужно опубликовать, чтобы люди знали, что было в период руководства хозяйством мудрого Старовойтова и что стало после наезда на него государственной машины.

Я не сравниваю прилавки в магазинах Украины и Беларуси. Украина – благословенная страна, там и лыжная палка, которую в землю воткнул, плодоносить начнет. Но… Но вот идет в Украине война. Понятно, что во время войны продукты питания должны дорожать. Они дорожают. Однако все равно дешевле белорусских. Хотя сельское хозяйство все сплошь – частное. И на Лукьяновском рынке, где я покупаю картошку и не только, видно: вот – оптовики, а вот – фермеры. У них картошка, морковка, лук – другие. И фермеры сами – другие. Отличаются от наемных продавцов. Наемный продавец цену не сбросит, а фермер – сбросит. Это и есть – рынок.

И вот еще – о рынке. На той же Лукьяновке есть специальный павильон, в котором пожилые женщины продают домашние сметану и творог. И масло. И молоко. В жару туда входишь – как в воду прыгаешь после сауны, холодом обдает, дышать можно. И тоже – можно поторговаться. Свое продают. Однажды при мне ругались – все набросились на одну женщину: дескать, не своим продуктом торгует. А та молчала и краснела. Они знают, о чем говорят.

И это, кстати, не мешает появлению брэндов, контролирующих целые сегменты собственного продовольственного рынка и проникающих и на наш рынок. Крупные хозяйства за столько лет воссозданы практически с нуля – без специальных президентских указов. Но при этом никто не мешает развиваться малому производству. На той же Лукьяновке множество киосков с колбасной продукцией – от разных заводов, небольших, но делающих удивительно вкусную колбасу и сальтисоны. И даже рыба – от частников. И чтобы пельмени из России привозили – слушайте, не позорьте Украину! Везти продукты заморозки со стороны – даже до войны такого не было! Все – свое.

Кормит Украину земля, кормит. И люди на ней работают. Кто хотел получить землю под производство – получил. Сейчас драка идет за землю под застройки. Но это другой разговор.

Когда мне говорят: вот у них там земля не распахана! Успокойтесь! Распахано ровно столько, сколько надо. Продуктов в изобилии. Продавать не успевают. А произвести так, чтобы сгнило – это зачем? Хозяйства научились считать.

И в селах дома крепкие. Без спецстроительства агрогородков. И машины рядом стоят. И вовсе не одни старики в тех домах и на тех машинах. Как-то складывается. Без Лукашенко – складывается.

При этом ни один из президентов на моей памяти – а я за Украиной со времен Леонида Кучмы слежу – не проводил селекторных совещаний, которые у нас проводились до последних лет, и не выстраивал банкиров под линейку, чтобы те – под угрозой тюрьмы – кредитовали аграрный сектор. Както сами по себе банкиры это умудрялись делать. Четко зная: народ ест при любой власти, а значит, деньги вернутся. С процентами.

Покажите мне тот банк в Беларуси, которому наш агропромышленный комплекс не влетел в копеечку. Которому не пришлось списывать аграрные долги под приставленным указующим перстом вместо дула пистолета. Кажется, таковым был лишь банк «Рассвет» при Старовойтове. Но тогда времена были другие. Те, к которым вернуться, наверное, можно, но сколько лет потеряно…

Как говорится, что посеяли…

А что посеяли? И что хотели посеять?

Были бы живы Василий Леонов, Иван Никитченко, Василий Старовойтов – они бы на мои вопросы ответили. А тут – кому отвечать? Боюсь, Семен Шапиро ответ знает, но – мне не ответит…

*Киев.*

СКАЗАНО!

Александр ЛУКАШЕНКО:

## «Это плохо, когда уже сегодня учитель в хороших, средних хозяйствах имеет половину зарплаты от механизатора, доярки...»

*На минувшей неделе Александр Лукашенко вновь говорил об учителях. Говорил правильно: если у белорусских учителей не будет достойного статуса и зарплаты, из школы уйдут лучшие педагогические кадры. Но сколько можно повторять одно и то же, по сути ничего не меняя? «Народная Воля» решила вспомнить, на чем в разные годы заострял внимание глава государства, говоря о педагогах. Как говорится, найдите пять отличий. Если, конечно, сможете.*

*«Учителей, врачей, нянечек, воспитателей в детском саду надо «подтягивать». И если мы в следующем году в 2 раза увеличим им зарплаты и вырастет средняя зарплата по стране, тогда у людей и настроение будет хорошее».*

**(На встрече с жителями агрогородка Холмеч Гомельской области, июль 2010 г.)**

* * *

*«Выход один: мы будем повышать заработную плату учителям, они обязаны получать больше, получать достойную заработную плату и эффективно работать. … Учитель сегодня больше, чем учитель, это еще и политическая фигура, мы их просим сходить к людям, какую-то политинформацию провести, особенно в малых городах и селах. Кроме учителя и врача это не сделает никто, это основа интеллигенции».*

**(Во время пресс-конференции для представителей белорусских и зарубежных СМИ, январь 2013 г.)**

* * *

*«Мы никуда не денемся от повышения заработной платы учителям. Будем разбираться и двигать им зарплату. … В ближайшее время, думаю, в сентябре, вы услышите об этом".*

**(Во время общения с трудовым коллективом Березовской ГРЭС, август 2014 г.)**

* * *

*«Ситуация с материальным обеспечением учительства дальше нетерпима, поэтому давайте учителя нагрузим настолько, насколько он должен быть загружен, но будем платить достойную зарплату. Мы учителя не потеряем: учителя были и всегда будут. Но мы вымываем самые сильные кадры из системы нашего образования, прежде всего школы. Мы теряем самых лучших учителей. … Давайте загружать учителя таким образом, чтобы действительно его статус был высок. Чтобы на селе и в городе, особенно на селе, учитель был главным действующим лицом. С другой стороны, и государство должно подставить свое плечо. Это плохо, когда уже сегодня учитель в хороших, средних хозяйствах имеет половину зарплаты от механизатора, доярки. Это ненормально. Поэтому этот вопрос коренной, центральный. Как бы мы от него ни уходили, как бы мы себя ни убаюкивали, что учителя не ставят перед нами каких-то материальных вопросов, мы четко должны понимать, что для каждого человека это важный момент. А для учителей архиважный, поскольку их средняя заработная плата ниже, чем по стране».*

**(Заслушивая доклад о ходе приемной кампании и подготовке системы образования к новому 2016/2017 учебному году, 9 августа 2016 г.)**

НЕСТАНДАРТ

## Беларуска ў адзіночку калясіць па свеце на матацыкле

*24-гадовая Насця ЛЯНЁВА ўзяла адпачынак на працы і адправілася ў падарожжа вакол Чорнага мора.*

Свой матацыкл выпускніца факультэта міжнародных адносін БДУ называе па імені Генадзь. Дзяўчына прызнаецца, што любоў да тэхнікі ў яе з'явілася выпадкова: чытала кнігі, глядзела фільмы і марыла пра падарожжы. Вырашыўшы ажыццявіць мару, Насця назапасіла на матацыкл «Honda Transalp» і адправілася ў шлях вакол Чорнага мора.

– *У падарожжах ты ўвесь час маеш зносіны: то з запраўшчыкам аб жыцці пагаворыш, то з падарожнікам з іншай краіны,* – кажа Насця Лянёва. – *З сабой у мяне палатка, аптэчка, экіпіроўка, тэлефон і тысяча долараў… Таксама я валодаю англійскай, іспанскай і нямецкай мовамі.*

У гэтым годзе было падарожжа ўжо вакол Каспійскага мора, дзяўчына наведала Узбекістан, Казахстан, Чачню, Грузію, Іран і іншыя дзяржавы.

– *Пакуль не думала, куды паеду ў наступным годзе,* – распавядае маладая падарожніца. – *Ведаю толькі, што ўсе гэтыя людзі, уражанні, прырода на маім шляху каштуюць таго, каб марыць і імкнуцца да такіх вандраванняў. Калі дарога ёсць, значыць, яна кудысьці вядзе. Таму трэба ехаць.*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ЭКАНОМІКА

## Мінск губляе замежныя інвестыцыі

Замежныя інвестыцыі ў эканоміку беларускай сталіцы за паўгода ўпалі на 20 %.

У першым паўгоддзі 2016 года асноўнымі інвестарамі арганізацый Мінска былі суб'екты гаспадарання Расіі (50,4% ад усіх атрыманых інвестыцый), Аб'яднанага Каралеўства Вялікай Брытаніі і Паўночнай Ірландыі (28,1%) ды Кіпра (6,9%).

Увогуле, за студзень–чэрвень 2016 года ў рэальны сектар эканомікі Мінска (акрамя банкаў) замежныя інвестары ўклалі 3,4 млрд долараў інвестыцый, паведамляе галоўнае статыстычнае ўпраўленне сталіцы.

Для параўнання: за першае паўгоддзе 2015 года ў рэальны сектар эканомікі Мінска замежныя інвестары ўклалі 4,3 млрд долараў. Такім чынам, за гэты год паказчык знізіўся на 20,93%.

ЧУЛІ?

## У Беларусі выбіраюць лепшую аграэкасядзібу

Конкурс праводзіць ААТ «Белаграпрамбанк» сумесна з БГА «Адпачынак у вёсцы» і Міністэрствам спорту і турызму.

Пераможцаў вызначаць у некалькіх намінацыях, вынікі конкурсу будуць абвешчаны ўвосень.





ЗАКУЛІССЕ

## Юрый Гарадзецкі сыходзіць на тэлепраект

Два гады таму мы хваляваліся за нашага **Іллю Сільчукова**: барытон Вялікага тэатра дайшоў да фіналу праекта «Вялікая опера» і ўзяў «бронзу». Цяпер настаў час трымаць кулачкі за лаўрэата шматлікіх міжнародных конкурсаў – тэнара **Юрыя Гарадзецкага** *(на здымку справа)*.

Восенню і зімой нас чакаюць 11 незабыўных выпускаў праграмы на тэлеканале «Расія Культура». А 24 снежня – грандыёзны фінал, у якім, як спадзяемся, прыме ўдзел і беларускі артыст. Дарэчы, Юра ў любым выпадку выйдзе ў гэты дзень на сцэну Маскоўскай кансерваторыі: на гала-канцэрт будуць запрошаны ўсе артысты праекта.

Арганізатары «Вялікай оперы» гэтым разам паспрабавалі ахапіць усе тэатры на постсавецкай прасторы, таму даслалі запрашэнні ў многія нацыянальныя оперы. У тым ліку і ў Вялікі тэатр Беларусі. Тут і вырашылі: едзе Гарадзецкі.

– *Безумоўна, у першую чаргу я патэлефанаваў Ілью Сільчукову,* – усміхаецца Юрый. – *Ён, будучы на гастролях у Францыі, мне адказаў: «Нават не думай – удзельнічай!». І даў некалькі парад. Парэкамендаваў «не мудраваць хітра» і браць толькі вядомыя творы. Мне ўжо даслалі тэмы праграм: тут і русская, і савецкая опера, і італьянская класіка, і рамансы, і праграмы, прысвечаныя Галіне Вішнеўскай, Джузэпэ Вердзі, Пятру Чайкоўскаму... Думаю, што ж узяць для перадачы, тэма якой – «Візітная картка»?*

### Даведка

*«Вялікая опера» – конкурс прафесійных оперных выканаўцаў, задача якога не толькі адкрыць новыя імёны таленавітых маладых артыстаў, але і папулярызаваць оперу. Удзельнікі «Вялікай оперы» – вакалісты з Расіі і краін СНД ва ўзросце ад 18 да 35 гадоў.*

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ГРОШЫ

## Долар і еўра працягваюць зніжацца

*На ўчарашніх таргах Беларускай валютна-фондавай біржы курс долара і еўра знізіўся, расійскага рубля – вырас.*

Курс долара знізіўся на 0,0073 рубля, або на 0,37%, і склаў 1,9482 рубля, курс еўра знізіўся на 0,0033 рубля (0,15%) да 2,1764 рубля.

Курс расійскага рубля (за 100 адзінак) вырас на 0,0054 рубля, або на 0,18%, і склаў 3,035 беларускага рубля за 100 расійскіх.

З пачатку жніўня долар патаннеў на 0,0476 беларускія рублі (мінус 2,39%). Яшчэ менш амерыканская валюта каштавала амаль тры месяцы таму.

Курс еўра апусціўся да свайго мінімуму за апошнія 7 месяцаў.

ПАД КРЫЛОМ

## «Боінг» з васільком

Учора ў Мінск з Сіэтла прыляцеў новы "Боінг 737-800" авіякампаніі «Белавія». Новы самалёт мае і новы дызайн – бела-блакітны колер і васілёк на хвасце, а таксама абноўлены салон.

Прычым "Боінг" з завода з'явіўся ў авіяпарку Белавіа ўпершыню, раней кампанія набывала толькі такія амерыканскія машыны, якія былі ў эксплуатацыі. Самалёт мае большую даўжыню і змяшчае больш пасажыраў, але расход паліва мае меншы, таму ёсць верагоднасць зніжэння коштаў на квіткі. Яго даўжыня – 39,49 метра, вышыня – 12,51 метра, размах крылаў – 34,31 метра, ён змяшчае да 189 чалавек.

Максімальная дальнасць палёту – 5400 км.

Максімальная хуткасць – 851 км/гадз.

Даўжыня прабегу – 1630 м.

Месцаў экіпажа – 2.

Шырыня салона – 3,54 метра.

Крэдыт на куплю самалёта «Белавія» выдзеліў Банк развіцця. Колькі каштаваў самалёт, не паведамляецца, але па каталогавых цэнах "Боінга" адзін самалёт каштуе 100 мільёнаў долараў. Гендырэктар «Белавія» Анатоль Гусараў заўважыў, што новы самалёт акупіцца на працягу 12 гадоў.

– Калі мы будзем павышаць цэны на квіткі, то, думаю, досыць хутка выплацім гэты крэдыт, – адзначыў Гусараў. – Але мы, наадварот, схільны зніжаць цэны.

Чакаецца, што першыя рэйсы новы "Боінг" пачне выконваць з 20 жніўня.

БЕЛПОЧТА

--------ТЕЛЕГРАММА--------

БЕЛАРУСЬ МИНСК 15 08 16 0 0 9 Цех по предоставлению услуг

ТЕЛЕГРАММА
ГРОДНО 166/1/75 178 15/8 0902=

ЛЮКС МІНСК ВУЛІЦА ЭНГЕЛЬСА Д ЗЧА ГАЛОУНАМУ РЭДАКТАРУ ГАЗЕТЫ
НАРОДНАЯ ВОЛЯ СЯРЭДЗІЧУ ІОСІФУ ПАУЛАВІЧУ=

ВЫ ЗРАБІЛІ ВАЖНУЮ СПРАВУ НАДРУКАВАУШЫ У НАРОДНАЙ ВОЛІ ДУХОУНЫ СКАРБ
150-ПЫТАННЯУ І АДКАЗАУ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ ШЧЫРАЯ ПАДЗЯКА АУТАРАМ
ЯКІЯ СКАЗАЛІ СВАЕ СЛОВА ПРА НАШЫ ДЗЯРЖАУНЫЯ СІМВАЛЫ ПРА
ГІСТАРЫЧНЫЯ ДАТЫ ЯКІЯ БЕЛАРУСЫ ПАВІННЫ ПАМЯТАЦЬ І ШАНАВАЦЬ МЫ
ДАВЕДАЛІСЯ ПРАУДУ ПРА ГАДЫ ЛІХАЛЕЦЦЯ КАЛІ БЕЛАРУСІ НЕ ДАВАЛІ ЖЫЦЬ
САМАСТОЙНА ЯЕ У НАС АДБІРАЛІ І ЧУЖЫЯ І СВАЕ ВЫКАРЧОВЫВАЛІ ЯК НАЦЫЮ
САМАБЫТНАСЦЬ БЕЛАРУСАУ ВЫПАЛЬВАЛІ З НАРОДНАЙ ПАМЯЦІ РАЗУМЕННЕ
БАЦЬКАУШЧЫНЫ ГАНЬБІЛИ ПЕРАКРОЙВАЛИ РВАЛІ НА КУСКІ НАШУ ГІСТОРЫЮ
МОВУ КУЛЬТУРУ ЗАБІРАЛИ НАШЫ ТАЛЕНТЫ І БАГАЦЦІ СТАВІЛІ МЭТУ
ПАЗБАВІЦЬ БЕЛАРУСАУ БУДУЧЫНІ ВЫНІШЧАЮЧЫ ЯК НАЦЫЮ НАМ ЗАСТАВАЛАСЯ
ДОЛЯ ЭТНІЧНАГА МАТЭРЫЯЛУ НАДАННЕ РУСКАЙ МОВЕ СТАТУСА ДЗЯРЖАУНАЙ
ВЯДЗЕ ДА ЗНІШЧЭННЯ БЕЛАРУСКАСЦІ ПА СЕННЯШНІ ДЗЕНЬ БЕЛАРУСЬ НЕ
АДЧУВАЕ СЯБЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОД НА СВАЕЙ ЗЯМЛІ НЕ БАЧЫЦЬ СЯБЕ
ГАСПАДАРОМ ТАК НАЗЫВАЕМАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ ГЭТА МАНЕУР ЯКІ
ПАТРЭБНЫ АДНАМУ ЧАЛАВЕКУ АБ ГЭТЫМ І НЕ ТОЛЬКІ МЫ ДАВЕДАЛІСЯ З
ПУБЛІКАЦЫІ ДУХОУНЫ СКАРБ 150 ПЫТАННЯУ І АДКАЗАУ СПАДЗЯЮСЯ ШТО
НАШ ДУХОУНЫ СКАРБ У ХУТКІМ ЧАСЕ БУДЕ УКЛЮЧАНЫ У НОВЫЯ
ПАДРУЧНІКІ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ=РОЗА РЫМАР ГРОДНА-

ННН 18580455 15.08.2016 09.10

